# ПАГОНЯ

Чацвер
17 чэрвеня 1999 г.
№ 39 (416)
Кошт 25.000 руб.


## Газ-забойца

**Два чалавекі загінулі, яшчэ два змешчаныя ў бальніцу ў выніку аварыі, якая адбылася на Скідальскім цукровым камбінаце ў Гарадзенскай вобласці.**

Як стала вядома, пры правядзенні рамонтных работ у адстойніках дзвюхступеньчатай ачысткі транспартна-суцёкавых вод і фільтруючага асадку, як лічыцца, вырвала пракладку на ўсмоктвальным трубаправодзе помпы. Вырваўся газ гніення (паводле папярэдніх звестак, метан), які і стаў прычынай трагедыі.

**Ася Куніцкая**

## «Брузгі» чакаюць расейскіх рублёў

**Працы па абуладкаванні мытных тэрміналаў на мяжы Беларусі з Літвой і Польшчай, адпаведна звесткам з афіцыйных крыніц, будуць сёлета прафінансаваны ў поўным аб'ёме.**

Паведамляецца, што згодна з саюзным бюджэтам на 1999 год, на гэтыя мэты плануецца накіраваць 100 млн. расійскіх рублёў. На 1 чэрвеня было пералічана толькі крыху больш за 15 млн. расійскіх рублёў, што прывяло да ўтварэння запазычанасці ў памеры 2 млн. расійскіх рублёў перад будаўнікамі, якія займаюцца абуладкаваннем тэрміналаў. Аднак гэтая запазычанасць будзе ліквідавана ў самы бліжэйшы час. У сувязі з дэфіцытам фінансавых сродкаў прынята рашэнне аб паэтапным увядзенні ў дзеянне мытных тэрміналаў.

У прыватнасці, прапускныя комплексы на пераходах «Камены лог» і «Брузгі» будуць уведзены ў дзеянне да канца гэтага года.

**Аляксандр Паповіч**

## Савет устанавіў новыя стаўкі

**Другая сесія Гарадзенскага абласнога Савета дэпутатаў 23-га склікання, унесла змяненні ў ранейшае рашэнне аблсавета «Аб зацвярджэнні фіксаваных ставак падатку на прыбытак і падаходнага падатку ў цвёрдых сумах пры рэалізацыі суб'ектамі гаспадарання тавараў, работ і паслуг за наяўны разлік».**

Стаўкі ўстаноўлены ў наступных памерах: дробнарознічны гандаль — 8 мінімальных заробных плат, гандаль у магазінах — 12 і на рынках — 7 мінімальных заробкаў. Раней дзейнічалі стаўкі 8, 15 і 10 мінімальных заробкаў адпаведна.

**Ася Куніцкая**

## Сквер для інтэрнацыяналістаў

**Сквер, які размешчаны ў Гродне, на перакрыжаванні вуліц Горкага і Курчатава, афіцыйна будзе насіць імя воінаў-інтэрнацыяналістаў — такое рашэнне прынялі дэпутаты Гарадзенскага гарсавета.**

Сёння ў Гарадзенскай вобласці пражывае 3 200 чалавек, якія ваявалі ў Афганістане. 71 з іх загінуў у ваенных дзеяннях, 102 засталіся інвалідамі. За дзесяць пасляваенных гадоў (1989 — 1999 г.г.) памерла 104 былых воінаў-інтэрнацыяналістаў. Жывое таксама на Гарадзеншчыне 61 былы вайсковец, пра якіх да апошняга часу публічна не ўзгадвалі. Гэта людзі з так званых падраздзяленняў асаблівай рызыкі — удзельнікі выпрабаванняў ядзернай зброі, ветэраны-добраахвотнікі, што ўдзельнічалі ў вайсковых канфліктах у розных краінах свету, байцы спецатрадаў і ваенныя дарадчыкі.

**Антон Лабовіч**

### НАДВОР'Е

**18 і 19 чэрвеня** - пераменная воблачнасць, кароткачасовыя дажджы. Вецер пераменных напрамкаў, 4-9 м/с. Тэмпература паветра ўначы +12...+17; удзень 18 чэрвеня +22...+27, 19 чэрвеня +20...+25.

# Рускі бот над Шчучынам ужо занесены. Мы можам застацца зусім без ботаў...

**З некаторай перыядычнасцю Лукашэнку падабаецца нагадваць Еўропе і ўсяму свету пра сваё існаванне. То ён паставіць у прыклад Беларусі досвед трэцяга Рэйха ў навядзенні парадку і дысцыпліны ў краіне (а ў III Рэйху ўсё залежала толькі ад сілы паліцыі і войска). То ён пашкадуе, што вывад ядзернай зброі з Беларусі быў паспешным і памылковым. Палітыка папярэдняга кіраўніцтва па раззбраенню і, як вынік, абвешчаны нейтралітэт нашай дзяржавы, аселі на зубах дыктатара асколкамі і ствараюць дыскамфорт, што ўвесь час яго непакоіць.**

Рознымі заявамі афіцыёза (пасля якіх звычайна ідуць крыва-душныя аднекванні) грамадская думка падштурхоўваецца да прызнання неабходнасці вяртання ядзерных ракет. Гэта характэрныя прыёмы Лукашэнкі. Пры гэтым пава ўвагай грамадства праходзіць звычайнае ўзбраенне. А між тым ад палітыкі скарачэння войска ўзяты курс на 180 градусаў процілеглы. Ужо абвешчана наконт неабходнасці павялічыць войска ў два разы. Якім цяжарам гэта ляжа на нас, зразумела ўсім падаткаплацельшчыкам. Калі настаўнік са стажам можа купіць на свой заробак адну пару абутку, то ў будучыні, трэба думаць, яму давядзецца абмежавацца адным чаравікам.

Уваход трох краін Усходняй Еўропы ў склад NATO і NATOўская акцыя ў Косаве для некаторых дзеячоў Саюза (не Паўночнаатлантычнага, а «нашага», савецкага) стаў падарункам, пра што ўжо неаднойчы пісалі. Для дыктатара Лукашэнкі гэта не толькі падарунак




ў геапалітычным сэнсе, гэта нагода заявіць пра сябе гучна, грозна. Гэта нагода, каб апраўдаць і паскорыць здачу незалежнасці Беларусі «вялікаму брату з ядзернай дубінкай».

Так, старыя ваенныя базы пачалі рыхтаваць да прыёму новых саюзных («русских») сілаў. Як толькі сышоў снег, распачалася рэканструкцыя ваеннага аэрадрома ў Шчучыне. Пасля разбазарвання маёмасці вайсковай часці (не без удзелу самых вайскоўцаў) будынкі, што маюць дачыненне да аэрадрома і службаў забеспячэння, знаходзяцца ў кепскім стане. Памяшканне падраздзялення, якое некалі абслугоўвала радарную ўстаноўку паміж Шчучынам і в.Руткевічы, уяўляе сабою, да прыкладу, проста руіны. І тым не менш, усё гэта «багацце» ахоўваецца.

У горадзе заўважаныя незвычайныя паводзіны радыёпрыёмачоў: знянацку яны перастаюць прымаць перадачы ў ультракароткахвалевым і кароткахвалевым дыяпазонах. Праз некаторы час пачынаюць зноў добра працаваць, і раптам усё можа паўтарыцца ізноў. На самім аэрадроме ідзе рэканструкцыя бетоннай паверхні, укладка новых кабельных сетак (старыя прададзены афіцэрамі і прапаршчыкамі перад адыходам каго ў Расію, каго ў адстаўку). Пад летняе сонейка з ангараў выпаўзае шмат грузавых машын (так званых кунгаў), нашпігаваных электронікай, каб сачыць за небам. Адкуль адразу столькі? Магчыма, паступалі планамерна, невялікімі партыямі.

Працэс толькі пайшоў. Улада, як заўсёды, чакае маўклівай згоды народа. Ад таго, якім рэхам гэта адгукнецца ў грамадстве, залежыць, колькі чаравікаў мы купім, ці паедзем за мяжу да сваякоў альбо за экзатычным таварам. Так пачынаецца новая халодная вайна. Пакуль яшчэ халодная, але з прыкметамі павышэння тэмпературы цела аганізуючага рэжыму.

**Ул. Б.**

## Суд адмовіў палякам

**8 чэрвеня суддзя Навагрудскага раённага суда Васіль Аляхновіч «прызнаў неправамерным» зыск Саюза палякаў Беларусі (СПБ) да мясцовых уладаў у абарону польскамоўнай адукацыі.**

Як паведаміў старшыня СПБ Тадэвуш Гавін, упершыню за сваю 10-гадовую дзейнасць аб'яднанне ініцыявала судовы працэс у абарону правоў дзяцей, якія жадаюць навучацца на польскай мове. Паводле словаў Т.Гавіна, старшыня Навагрудскага райвыканкама Анатоль Ліс не толькі не забяспечыў нармальную дзейнасць існуючых польскамоўных класаў, але і «зрабіў усё магчымае, каб не дазволіць стварэння класаў з польскай мовай навучання ў 1997—1998 гадах». Старшыня СПБ адзначыў, што праблемы з польскамоўнай адукацыяй у Навагрудку пачаліся ў 1997 годзе, калі райвыканкам прыняў рашэнне аб немэтазгоднасці адкрыцця польскамоўных класаў і будаўніцтва ў горадзе польскамоўнай школы. Дзеці, якія паступілі ў першы польскамоўны клас у 1997 годзе, правучыліся толькі першую чвэрць, а пасля асенніх канікул даведаліся, што першага класа ўжо не існуе.

Паводле сцвярджэння Т.Гавіна, дайшло да таго, што А.Ліс запрасіў на гутарку бацькоў дзяцей, якія навучаліся ў гэтым класе, стаў высвятляць іх нацыянальную прыналежнасць і нават прапанаваў «без памылак сказаць што-небудзь па-польску». А ў 1998 годзе першы польскамоўны клас наогул не быў адчынены, нягледзячы на тое, што бацькамі было пададзена адпаведных 17 заяваў. У дадзенай сітуацыі СПБ звярнуўся ў Навагрудскі раённы суд з зыскам, у якім запатрабаваў прызнаць незаконным рашэнне Навагрудскага райвыканкама аб немэтазгоднасці адкрыцця ў горадзе першых класаў з польскай мовай навучання і будаўніцтва польскамоўнай школы на працягу 1997—1998 гадоў.

Падчас судовага працэсу, які доўжыўся два дні, Тадэвуш Гавін заявіў, што дзеянні мясцовых уладаў з'яўляюцца «непрыкрытым беззаконнем». «Або нас, палякаў, настолькі ненавідзяць улады, або яны рэалізуюць адпаведную палітыку дзяржавы», —сказаў ён і паведаміў, што СПБ працягне барацьбу за свае законныя правы і абскардзіць рашэнне Навагрудскага раённага суда ў Гарадзенскім абласным судзе.

**Марат Гаравы**

# Не адкладвайце падпіску на заўтра!

Падпіска заканчваецца 18 чэрвеня! А таму не варта адкладваць на заўтра тое, што можна зрабіць ужо сёння. Гэта не зойме ў Вас шмат часу: Вам неабходна запоўніць падпісны квіток і па дарозе на працу заскочыць на некалькі хвілін у бліжэйшае паштовае аддзяленне.

**Нагадваем, што кошт падпіскі на нашую газету - 200 тысяч рублёў на месяц. Падпіска на квартал - 600 тысяч рублёў. Падпісны індэкс - 63 124.**

Звяртаем Вашую увагу на тое, што гэтым разам ПАГОНЯ атрымала таксама падпісны індэкс для ведамаснай падпіскі - 63 348. Гэта значыць, што ПАГОНЮ можна выпісаць на прадпрыемствы, установы, калгасы і г. д. Кошт ведамаснай падпіскі ў тры разы даражэй: на месяц 600 тысяч, на квартал 1 мільён 800 тысяч рублёў.

## Чаму трэба выпісаць ПАГОНЮ?

♦ таму, што два разы на тыдзень Вы будзеце атрымліваць аператыўную і аб'ектыўную інфармацыю пра грамадска-палітычнае жыццё ў Прынямонні і на Беларусі.

♦ таму, што падпіска на ПАГОНЮ ўжо сёння Вам каштуе ў два разы танней, чым у кіёсках Саюздруку.

♦ таму, што падпісаўшыся на нашу газету, Вы не словам, а справай дапаможаце нам у гэты цяжкі час, унесяце важкі ўклад у пабудову новай Беларусі.

♦ таму, што гэта Ваша газета!!!

Ф. РД-1

Міністэрства сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь

**АБАНЕМЕНТ** на газету / ~~часопіс~~ **63124** індэкс выдання

**"ПАГОНЯ"**

(назва выдання) | Колькасць камплектаў: 1

На 1999 год па месяцах:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | × | × | × | | | |

Куды ______ (паштовы індэкс) ______ (адрас)

Каму ______ (прозвішча, ініцыялы)

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТАЧКА**

на газету / ~~часопіс~~ **63124** індэкс выдання

**"ПАГОНЯ"**

(назва выдання)

| Кошт | падпіскі | 600 тыс. руб. | Колькасць камплектаў | 1 |
|---|---|---|---|---|
| | пераадрасоўкі | ____ руб. __ кап. | | |

На 1999 год па месяцах:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | × | × | × | | | |

Куды ______ (паштовы індэкс) ______ (адрас)

Каму ______ (прозвішча, ініцыялы)

 







ПАЛІТЫЧНАЯ СЦЭНА

# У Бухарэсце абмеркавалі беларускія праблемы

**Афіцыйныя беларускія ўлады праігнаравалі правядзенне нават нефармальных перамоваў з прадстаўнікамі апазіцыі і так званага трэцяга сектару. Ініцыятыва спецыяльнай рабочай групы па Беларусі Парламенцкай Асамблеі АБСЕ нечакана была адрынута «вертыкаллю»...**

Гарадзеншчыну на перамовах прадстаўлялі старшыня Каардынацыйнага камітэта «Гарадзенская ініцыятыва», сябра Прэзідыума Вярхоўнага Савета 13-га склікання Сямён Домаш і кіраўнік абласной грамадскай арганізацыі «Ратуша» Аляксандр Мілінкевіч.

Меркавалася, што ўдзел у абмене думкамі прымуць 24 чалавекі. Першапачаткова была атрымана згода пэўных дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу, намесніка кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта Аляксандра Абрамовіча, кіраўніка Цэнтрвыбаркама Лідзіі Ярмошынай, старшыні Канстытуцыйнага суда Рыгора Васілевіча ды іншых. Але восем чалавек з прэзідэнцкага атачэння раптоўна адмянілі паездку ў румынскую сталіцу.

Затое сюды завіталі Анатоль Лябедзька, Мечыслаў Грыб, Мікалай Статкевіч, Сяргей Калякін, Лявон Баршчэўскі, Таццяна Процька, Віктар Карніенка. Улады прадстаўляў хіба што намеснік старшыні афіцыйных прафсаюзаў. Аднак ён адразу даў зразумець, што будзе адказваць толькі сам за сябе. Урэшце, адпаведна пратаколу, нікто не з'яўляўся вылучэнцам партый, рухаў ці грамадскіх арганізацый. Кожны мог выказаць уласнае меркаванне, як выйсці з палітычнага тупіка на Беларусі.

Як засведчыў Аляксандр Мілінкевіч, цікавы абмен думкамі адбыўся і без прадстаўнікоў улады. Тым больш, што на сустрэчу з Брусэля прыляцеў Генеральны сакратар АБСЕ. Высокі чыноўнік асабіста пераканаўся, што не апазіцыя ігнаруе перамовы, а беларускія ўлады не жадаюць нават садзіцца за агульны стол, каб вызначыць магчымыя пункты ўзаемадачынення.

Праз тры тыдні ў Санкт-Пецярбургу пройдзе чарговая сесія АБСЕ. Кіраўніку спецгрупы па Беларусі, былому міністру замежных справаў Румыніі Адрыяну Северыну даручана падрыхтаваць даклад наконт палітычнай сітуацыі ў нашай краіне. Адмова афіцыйных менскіх уладаў удзельнічаць у перамовах вельмі негатыўна адаб'ецца на змесце яго выступлення. Няўтульна будуць адчуваць сябе і расійскія палітыкі. Ім яшчэ раз нагадаюць, якога саюзніка ў асобе беларускіх кіраўнікоў яны падтрымліваюць: абвінавачваюць апазіцыю ва ўсіх грахах, а выказаць свае прэтэнзіі публічна ніяк не збіруцца. А мо гаварыць няма пра што? Ідэалагічныя заклінанні ва ўлік не бяруцца.

Адной з мэтаў абмену думкамі была выпрацоўка рэкамендацый, як можна паўплываць на сацыяльна-палітычную сітуацыю на Беларусі. Удзельнікі дыскусіі аднадушна сышліся на тым, што неабходна спыніць палітычныя пераслeды за іншадумства, неадкладна вызваліць з турмаў палітзняволеных, забяспечыць апазіцыі доступ да электронных СМІ, парупіцца пра стварэнне новай выбарчай сістэмы.

Прэзідэнцкі бок зноў сеў у лужыну. Хацелі выгадаць нейкія перавагі для сябе, але атрымалася, як заўсёды - няўклюдна і не да ладу. Гэта небяспечна, бо 20 ліпеня заканчваецца легітымны тэрмін прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі, і ён не будзе ўспрымацца міжнароднай грамадскасцю як прэзідэнт Беларусі. Пра гэта было ўжо недвухсэнсоўна заяўлена. Дэмакратычны Захад не любіць узурпатараў і парушальнікаў правоў чалавека. Прыклад таму, падзеі ў Югаславіі.

Можа здарыцца так, што Аляксандр Лукашэнка будзе рады сесці за стол перамоваў. Ды толькі нікто не захоча з ім гаварыць. Усяму свой час.

**Антон Лабовіч**

Пытанні, датычныя правядзення свабодных і справядлівых выбараў у Беларусі, былі абмеркаваныя падчас нефармальных перамоваў у Бухарэсце з 11 па 13 чэрвеня. Спецыяльная рабочая група па Беларусі Парламенцкай Асамблеі АБСЕ і Кансультатыўна-назіральная група АБСЕ ў Беларусі арганізавалі гэтую сустрэчу з мэтай ініцыявання працэсу дыялогу паміж афіцыйнымі ўладамі, апазіцыйнымі сіламі і грамадскімі арганізацыямі. Былі праведзены дыскусіі па тэмах: заканадаўчая ўлада, сродкі масавай інфармацыі і выбары.

Для ўдзелу ў сустрэчы, якая прайшла за зачыненымі дзвярыма, былі запрошаны дэпутаты парламента, іншыя палітычныя дзеячы і афіцыйныя асобы з боку ўрада, а таксама прадстаўнікі апазіцыі і гэтак званага «трэцяга сектара». У прыватнасці, што тычыцца афіцыйных беларускіх уладаў, запрашэнні былі накіраваныя членам Нацыянальнага сходу Уладзіміру Канаплёву, Юрыя Кулакоўскаму, Анатолю Красуцкаму, намесніку кіраўніка прэзідэнцкай адміністрацыі Аляксандру Абрамовічу, старшыні Канстытуцыйнага суда Рыгору Васілевічу. Усяго, па задуме арганізатараў, у сустрэчы павінны былі ўзяць удзел дзевяць прадстаўнікоў урада і Нацыянальнага сходу. Аднак, паводле маючыхся звестак, большасць з іх у Бухарэст не паехалі. Тым не менш, кіраўнік Спецыяльнай рабочай групы па Беларусі Парламенцкай Асамблеі АБСЕ спадар Адрыян Северын даў высокую ацэнку прайшоўшым перамовам.

«Мы паклалі пачатак дыскусіі на аснове агульнай роўніцы, якая можа прывесці да кансенсусу», — заявіў спадар Северын, згодна з прэс-рэлізам, распаўсюджаным Парламенцкай Асамблеяй АБСЕ 14 чэрвеня. У паведамленні гаворыцца, што падчас перамоваў удзельнікі сустрэчы закранулі шэраг пытанняў, па якіх маюцца рознагалоссі сярод удзельнікаў палітычнага працэсу ў Беларусі. У сувязі з гэтым арганізатары з задавальненнем канстатавалі, што ў пазіцыях бакоў існавалі пункты сутыкнення. Перш за ўсё, гэта тычылася неабходнасці доступу да дзяржаўных СМІ для ўсіх палітычных сілаў. «Плённы дыялог, падчас якога назіраліся моманты ўзаемаразумення», — так ахарактарызаваў прайшоўшую сустрэчу кіраўнік Кансультатыўна-назіральнай групы АБСЕ Ханс-Георг Вік. Пагаджаючыся з ім, спадар Северын дадаў: «а зараз мы павінны прыступіць да наступнага этапу «Бухарэсцкага працэсу» і пашырыць гэты дыялог».

У прыватнасці, Парламенцкая Асамблея АБСЕ і Кансультатыўна-назіральная група АБСЕ плануюць прадоўжыць намаганні па развіцці дыялогу з удзелам афіцыйных органаў Беларусі. Па выніках Бухарэсцкай сустрэчы будуць падрыхтаваныя даклады аб ходзе дыскусіі па ўсіх трох тэмах, што абмяркоўваліся на перамовах. Гэтыя даклады будуць падрыхтаваны на разгляд падчас наступнага раунду перамоваў. У Бухарэсцкай сустрэчы, апрача членаў Спецыяльнай рабочай групы па Беларусі ПА АБСЕ і Кансультацыйна-назіральнай групы АБСЕ, узялі ўдзел Генеральны сакратар ПА АБСЕ спадар Спенсер Олівер і дакладчык па Беларусі Палітычнага камітэта ПА Савета Еўропы спадар Вольфганг Берэндт.

***

Кіраўнік рабочай групы па Беларусі Парламенцкай Асамблеі АБСЕ экс-міністр замежных справаў Румыніі Адрыян Северын, ацэньваючы вынікі прайшоўшых 11—13 чэрвеня ў Бухарэсце нефармальных перамоваў па гэтак званым беларускім пытанні, заявіў у эксклюзіўным інтэрв'ю беларускай рэдакцыі «Радыё «Свабода», што «гэты працэс будзе працяглым і складаным».

Паводле словаў Адрыяна Северына, галоўнай мэтай перамоваў было «знайсці развязку беларускіх праблем з тым, каб у краіне можна было правесці свабодныя і справядлівыя выбары, у якіх удзельнічалі б усе палітычныя сілы краіны і вынікі якіх былі б прызнаны як на ўнутраным, гэтак і на міжнародным узроўнях».

Нягледзячы на адсутнасць на сустрэчы прадстаўнікоў афіцыйных уладаў, кіраўнік рабочай групы па Беларусі лічыць, што нефармальныя перамовы былі паспяховымі. Паводле яго нага сцвярджэння, пастаўленая мэта не дасягаецца «адным махам». «Гэта працэс, і мы яго пачалі», падкрэсліў Адрыян Северын. Ён адзначыў таксама, што некаторыя палітыкі і журналісты ўжо назвалі гэты працэс «бухарэсцкім». На думку кіраўніка рабочай групы, «працэс павінен працягвацца тут альбо ў іншым месцы, але ўсім зразумела, што ён будзе працяглым і складаным».

***

Старшыня камісіі па міжнародных справах Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь 13-га склікання Анатоль Лябедзька, які браў удзел у нефармальных перамовах у Бухарэсце 11—13 чэрвеня па згідай Парламенцкай Асамблеі АБСЕ, адзначыў: нягледзячы на адсутнасць афіцыйных асоб Беларусі на гэтай сустрэчы, ён звeдваe ад вынікаў перамоваў пачуццё задавальнення. «Мы прадэманстравалі сваю гатоўнасць несці адказнасць за лёс краіны, не толькі выклалі свой пункт погляду на працэсы, што адбываюцца на Беларусі, але і ўважліва выслухалі меркаванні па гэтых праблемах прадстаўнікоў АБСЕ», — сказаў А.Лябедзька.

Паводле яго ных словаў, з дзевяці запрошаных па спісе АБСЕ афіцыйных асоб, у Бухарэст прыехаў толькі адзін — намеснік старшыні Федэрацыі прафсаюзаў Беларускай Франц Вітко. Ды і той, дарэчы, падкрэсліў, што прафсаюзы — гэта грамадская, а не дзяржаўная арганізацыя. Адсутнасць сярод удзельнікаў перамоваў прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу, Канстытуцыйнага суда і Цэнтрвыбаркама, якія запрашаліся на перамовы, на думку А.Лябедзькі, красамоўна паказалі еўрапейскай супольнасці, што ўсе сцвярджэнні кіраўніцтва Беларусі аб тым, што ў краіне існуе раздзяленне ўладаў — фікцыя. «Бо ні «палітачнікі», ні кіраўнік Канстытуцыйнага суда, ні старшыня Цэнтрвыбаркама па сваім статусе не з'яўляюцца падпарадкаванымі прэзідэнцкай адміністрацыі, — заўважыў А.Лябедзька. — Але іх адсутнасць у Бухарэсце наглядна паказала, што ў Беларусі ўсе пытанні вырашае толькі адзін чалавек — прэзідэнт А.Лукашэнка. І гэтак званыя другая і трэцяя галіны ўлады ва ўсім яму паслухмяныя».

Другім прынцыповым момантам Бухарэсцкай сустрэчы, на думку старшыні парламенцкай камісіі, стала відавочнасць таго, што афіцыйныя ўлады Беларусі толькі імітуюць сваю гатоўнасць да перамоўнага працэсу. Гэты прыём, адзначыў А.Лябедзька, быў выкарыстаны і ў 1997 годзе, калі міжнародныя арганізацыі спрабавалі правесці трохбаковую сустрэчу ў Менску, а таксама ў шэрагу іншых сітуацый.

Анатоль Лябедзька назваў бухарэсцкую сустрэчу «інвестыцыяй у доўгатэрміновы беларускі праект». На ягоную думку, наступны этап перамоваў, магчыма, адбудзецца яшчэ да 20 ліпеня — калі, згодна з Канстытуцыяй узору 1994 года, заканчваецца тэрмін прэзідэнцкіх паўнамоцтваў А.Лукашэнкі — альбо сёлета восенню.

**Уладзімір Глод,**
**Іван Міхайлаў**

# У Фронце пачалася «борьба под одеялом»

**У абставінах глыбокай таямніцы ў мінулую суботу ў Гродне адбылася абласная канферэнцыя БНФ «Адраджэнне». Прынцыпы адбору дэлегатаў на гэтую важную акцыю, спіс удзельнікаў ды іх колькасць, каго прадстаўлялі гэтыя людзі, - для шырокай грамадскасці невядомыя і дагэтуль. Арганізатары ў лепшых бальшавіцкіх традыцыях не парупіліся абвесціць пра гэтую падзею не толькі сродкі масавай інфармацыі, але і сябраў самай шматлікай франтаўскай арганізацыі - Гарадзенскай гарадской.**

Як стала вядома з неафіцыйнай крыніцы, у канферэнцыі бралі ўдзел такія кіраўнікі Фронту, як Ю.Хадыка, В.Вячорка, В.Сіўчык, С.Папкоў, В.Буйвал. Заўважым, што першыя тры асобы сёння знаходзяцца ў вострай канфрантацыі з лідарам Фронту Зянонам Пазьняком. Гэтая акалічнасць і адбілася на тым, што падчас дыскусіяў ледзь не даходзіла да бойкі.

Большасцю галасоў, як сцвярджае тая ж неафіцыйная крыніца, канферэнцыя прыняла Зварот да Сойму Народнага Фронту (**поўны тэкст друкуецца ніжэй**). З'яўленне такога дакументу сведчыць пра тое, што ў Фронце разгарнуліся самыя сапраўдныя інтрыгі напярэдадні маючага адбыцца з'езду, на якім мяркуецца паставіць пытанне наконт магчымасці Зянона Пазьняка працягваць выкананне абавязкаў Старшыні Фронту.

**Ул. інф.**

## *Зварот да Сойму Народнага Фронту Гарадзенскай абласной канферэнцыі БНФ «Адраджэнне»*

***Мы, удзельнікі Гарадзенскай абласной канферэнцыі БНФ «Адраджэнне», абураны дзейнасцю сп. С.Папкова і сп. А.Крыварота ў сувязі з парушэннем імі Статута БНФ і дэзарганізацыяй выбараў шляхам аддання загадаў праз галовы кіраўніцтва абласных структураў у раённыя арганізацыі аб выхадзе сябраў БНФ з камісій па выбарах Прэзідэнта РБ.***

***Звяртаемся да Сойму з прапановай ад прыпыненні паўнамоцтваў сп. С.Папкова і сп. А.Крыварота ў кіраўніцтве БНФ да чарговага з'езду.***

***г.Гродна,***
***13 чэрвеня 1999 года***

# Аб`яднаная Еўропа раіць трымаць курс на выбары

**Старшыня Камітэта міністраў Савета Еўропы, прэзідэнт Парламенцкай Асамблеі СЕ і генеральны сакратар Савета Еўропы выступілі з дэкларацыяй, у якой падтрымалі высновы АБСЕ адносна выбараў у мясцовыя Саветы Рэспублікі Беларусь у красавіку і прэзідэнцкіх выбараў, праведзеных Вярхоўным Саветам Беларусі 13-га склікання ў траўні.**

Кампанія па выбарах прэзідэнта ахарактарызавана ў дэкларацыі як «кансультацыя з выбаршчыкамі». Кіраўніцтва Савета Еўропы таксама заявіла, што арышт былога прэм'ер-міністра Міхаіла Чыгіра супярэчыць прынцыпам, якіх прытрымліваюцца краіны-члены Савета Еўропы, і заклікала беларускі ўрад вызваліць былога прэм'ера з-пад варты. Кіраўнікі Савета Еўропы выказалі сваё цвёрдае перакананне ў тым, што палітычныя партыі і дзеячы Беларусі павінны мець магчымасць беспераашкодна звяртацца да выбаршчыкаў, а народ Беларусі павінен мець права выбіраць сваіх прадстаўнікоў на сапраўдных свабодных і дэмакратычных выбарах. Кіраўніцтва Савета Еўропы лічыць, што палітычныя партыі і кандыдаты павінны мець магчымасці, уключаючы фінансавыя, для арганізацыі поўнамаштабнай выбарчай кампаніі, і доступ да любых друкаваных і электронных сродкаў масавай інфармацыі, у тым ліку да фінансуемых дзяржавай.

Як гаворыцца ў дэкларацыі: павінен быць пакладзены канец антыдэмакратычнай практыцы ўвязвання адміністрацыйных правапарушэнняў з магчымасцю вылучэння кандыдатаў. У дэкларацыі адзначаецца, што, як прынята ва ўсіх дэмакратычных краінах, палітычным партыям павінна належаць вядучая роля ў вылучэнні кандыдатаў у выбарчыя органы. Адначасова працоўныя калектывы, чые дзеянні абмежаваныя вытворчай дысцыплінай, а кар'ера членаў гэтых калектываў шмат у чым залежыць ад кіраўніцтва дадзенага прадпрыемства, не могуць адыгрываць якуюсьці ролю ў выбарчым працэсе. Кіраўніцтва Савета Еўропы таксама лічыць, што выбарчыя камісіі ўсіх узроўняў павінны фармавацца на прынцыпах, ухваленых усімі палітычнымі сіламі, якія бяруць удзел у выбарах.

Напрыканцы дэкларацыі лідары Савета Еўропы падкрэсліваюць, што свабодныя і дэмакратычныя выбары пры ўмове падтрымкі міжнароднай супольнасці і прысутнасці міжнародных назіральнікаў стануць першым крокам на шляху аднаўлення адносінаў паміж Беларуссю і Саветам Еўропы.

**Іван Міхайлаў**

# Лукашэнка лідыруе ў Менску

**Сацыялагічная служба «Зеркало» інфармацыйнай кампаніі БелаПАН правяла з 10 па 13 чэрвеня чарговае даследаванне, падчас якога дарослым жыхарам Менска было прапанавана адказаць на пытанне, калі, на іх думку, заканчваецца паўнамоцтвы Аляксандра Лукашэнкі на пасадзе прэзідэнта Беларусі — у 1999-м ці ў 2001 годзе.**

Як вядома, прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка быў абраны ў 1994 годзе на 5-гадовы тэрмін — гэта значыць, да 1999 года. Аднак пасля рэферэндуму ў 1996 годзе ў Канстытуцыю Беларусі былі ўнесены змяненні і дапаўненні, якія прадугледжваюць працяг тэрміну паўнамоцтваў прэзідэнта да 2001 года. 43 працэнты з 600 апытаных менчукоў лічаць, што паўнамоцтвы А.Лукашэнкі заканчваюцца ў 2001 годзе. Некалькі меншая колькасць апытаных — 38 працэнтаў — выказаліся за 1999 год. Астатнія 19 працэнтаў не змаглі адказаць.

Жыхарам беларускай сталіцы было прапанавана таксама адказаць на пытанне «ЗА КАГО ВЫ АДДАЛІ Б СВОЙ ГОЛАС, КАЛІ БЫ НОВЫЯ ВЫБАРЫ ПРЭЗІДЭНТА БЕЛАРУСІ АДБЫЛІСЯ СЁННЯ?» 28 працэнтаў рэспандэнтаў заявілі, што не бачаць вартых гэтага кандыдатаў. Кожны пяты — 20 працэнтаў — апытаны менчук не змог адказаць на прапанаванае пытанне. Па 9 працэнтаў рэспандэнтаў заявілі, што не пойдуць на выбары або ж будуць галасаваць супраць усіх кандыдатаў. Сярод названых менчукамі магчымых кандыдатаў на пасаду кіраўніка дзяржавы лідыруе Аляксандр Лукашэнка (23 працэнты). 4 працэнты апытаных назвалі Зянона Пазьняка і 3 працэнты — Міхаіла Чыгіра. Па 1 працэнту рэспандэнтаў назвалі Станіслава Шушкевіча і Уладзіміра Ярмошына. Кандыдатуры іншых магчымых прэтэндэнтаў на пасаду прэзідэнта Беларусі называліся значна меней.

Нельга не заўважыць, што рэйтынг выбарнасці Аляксандра Лукашэнкі сярод менчукоў у параўнанні з другой дэкадай красавіка 1999 года ўзрос на 13 працэнтаў (быў 10 працэнтаў). Рэйтынг жа Міхаіла Чыгіра ўпаў на 2 працэнты, Зянона Пазьняка — на 1 працэнт. З палітычнага Алімпу знікла кандыдатура Віктара Ганчара і з'явілася кандыдатура старшыні Менгарвыканкама Уладзіміра Ярмошына.

На думку экспертаў, на рост рэйтынгу прэзідэнта А.Лукашэнкі паўплывала некалькі фактараў — павышэнне ўзроўню мінімальнага заробку; прэзідэнцкія выбары 16 траўня; замоўчванне афіцыйнымі СМІ факту магчымага заключэння Саюза з Югаславіяй; заклікі да кансалідацыі напярэдадні «ўмяшальніцтва NATO ў справы Беларусі».

**Леанід Міхейчыкаў**

 

ГРАМАДСТВА

# Невядомая машкара

**Апошнія некалькі гадоў чэрвень стаў самым непрыемным летнім месяцам. У гэты час жыхароў Гарадзеншчыны адольвае машкара.**

Пра гэтых дробных і надта шматлікіх насякомых яшчэ 5-7 гадоў таму ніхто і не думаў. Цяпер жа прыкладна з другой дэкады чэрвеня машкара з'яўляецца ў такой колькасці, што на адкрытым паветры немагчыма ні працаваць, ні адпачываць. Гэтыя насякомыя, ад якіх у спякотнае надвор'е гудзе паветра, набіваюцца ў вочы, нос, вушы, пад адзенне. А самае галоўнае - іх укусы надта балючыя і могуць на тыдзень пакласці ў ложак упартых дачнікаў, што ігнаруюць гэтую драбнату. Месцы вялікай колькасці ўкусаў чырванеюць, напухаюць і ператвараюцца ў балючыя гузакі. Асабліва пакутуюць ад машкары дзеці, якія за гульнямі не звяртаюць на яе ўвагі і ў выніку аказваюцца ўшчэнт пакусанымі.

Нягледзячы на тое, што гнюс турбуе людзей ужо не менш як 5 гадоў, падобна на тое, што спецыялістаў-энтамолагаў гэта асабліва не цікавіць. У камітэце аховы прыродных рэсурсаў нам адказалі, што, маўляў, праблемамі насякомых у іх не займаюцца. Што дзіўна - раптоўнае з'яўленне такой колькасці машкары сведчыць пра перакос у экалагічным балансе краю. Незалежныя эксперты мяркуюць, што атака заедзі можа быць справакавана знішчэннем дробнай птушкі ў горадзе, асабліва верабʼёў.

Старшая выкладчыца кафедры батанікі і заалогіі універсітэта, энтамолаг Аляксандра Рыжая лічыць, што паўплываць на экспансію куслівых насякомых магло мноства фактараў, сярод якіх - спякотны пачатак лета. «Аднак ніхто спецыяльна гэтае пытанне не вывучаў, - гаворыць спадарыня Рыжая, - мы не ведаем, нават, ці даводзіцца тая машкара сваякамі сібірскаму гнюсу. У нас няма спісу відаў насякомых, якія жылі на нашай тэрыторыі раней. Так што невядома, ці то гэта госці з іншых рэгіёнаў, ці то «наша» машкара».

Варыянтаў меркаванняў наконт паходжання машкары ў навукоўцаў пакуль два. Першы: калі травяць адных, то размнажаюцца іншыя. Мажліва, з-за «хіміятэрапіі» супраць сельскагаспадарчых шкоднікаў зніклі натуральныя ворагі машкары, з-за чаго яна і пачала размнажацца ў геаметрычнай прагрэсіі. Другі варыянт - куслівая машкара мігравала да нас з іншых краёў, насякомыя не сустрэлі супраціўлення, таму і засталіся.

Народ тым часам спадручнымі сродкамі змагаецца з крыважэрнаю заедздю. Кажуць, добра машкару адганяе танны адэкалон «Гваздика». Калі ж вас ужо пакусалі - паспрабуйце мазаць месцы ўкусаў воцатам. Гэта ўсё, што можна парэкамендаваць. Навука ізноў аказалася бездапаможнай.

# Радыёнуклідныя каровы - з'ява беларуская

**Сустракаюцца яны і на Гарадзеншчыне. Да такой высновы падштурхоўваюць некаторыя факты, што мае абласны цэнтр гігіены і эпідэміялогіі. Гэта не падстава для панікі, але ў той жа час знак несумненнай трывогі.**

Пасля аварыі на Чарнобыльскай АЭС пабольшала работы і спецыялістам ГАЦГіЭ. У парадку санітарнага кантролю яны сочаць за змяшчэннем радыёнуклідаў у аб'ектах навакольнага асяроддзя. Штогод выконваецца болей за 12 тысяч лабараторных даследаванняў (калі не ўлічваць пастаянны ведамасны кантроль). У мінулым годзе, прыкладам, зарэгістравана шэсць выпадкаў перавышэння рэспубліканскіх дапушчальных узроўняў (РДУ) у малацэ прыватных падворкаў у в.Збойск Іўеўскага раёна і в.Гнесічы Навагрудскага раёна. А вось у 1997 годзе ў прыватным сектары тых жа раёнаў было зафіксавана 30 пробаў малака з перавышэннем РДУ, а за пяць месяцаў бягучага года - у шасці пробах.

І ўсюды размова ідзе пра цэзій-137. Стронцый-90 увогуле не падаваў сігнал трывогі. Чыстымі былі мяса і мясапрадукты. Праўда, насельніцтва неахвотна здае пробы мяса на радыёнукліды кантроль. А ў вытворчым сектары малако і мяса, а таксама прадукты з іх наогул не давалі падставаў для непакою. Адпавядаюць нормам пітная вада, дзіцячае харчаванне, хлеба-булачныя вырабы і г.д.

А вось дары лесу часцей за ўсё падносяць непрыемныя сюрпрызы. Тут цэзій-137 даволі агрэсіўны. У мінулым годзе ў 54-х пробах лясных ягадаў з 228-мі адзначаны перавышэнні рэспубліканскіх дапушчальных узроўняў. Яны былі зарэгістраваны ў Дзятлаўскім, Іўеўскім і Навагрудскім раёнах.

У 1998 годзе перавышэнне РДУ ў грыбах зафіксавана ў 238-мі пробах з 589-ці, якія прайшлі лабараторныя даследаванні. Да трох вышэйназваных раёнаў можна дадаць Лідскі і Свіслацкі, дзе адзначаны адзінкавыя выпадкі радыёнукліднай трывогі. А вось грыбаварні, кансервавыя заводы, паводле словаў урача-гігіеніста радыёлагічнага аддзялення ГАЦГіЭ Івана Юргеля, не далі ніводнага выпадку перавышэння РДУ. Дарэчы, у гэтым годзе дапушчальныя ўзроўні больш жорсткія за РДУ-96. Гэта стварае дадатковыя гарантыі для экспарту беларускай прадукцыі.

**Вадзім Жураўлёў**

**Ад рэдакцыі.** Калі гэтая нататка была падрыхтаваная да друку, у рэдакцыю патэлефанаваў сп. Юргель, які катэгарычна патрабаваў не друкаваць яе у ПАГОНІ, бо журналіст браў у яго інфармацыю для іншага выдання. Нагадваем, аднак, Івану Уладзіміравічу, што ён не можа дыктаваць рэдакцыі - што ёй друкаваць, а што не. Больш таго, як і кожны чыноўнік, які ўтрымліваецца на грошы падаткаплацельшчыкаў (у тым ліку і чытачоў ПАГОНІ), сп. Юргель АБАВЯЗАНЫ даваць грамадска значную інфармацыю для ЎСІХ сродкаў масавай інфармацыі. У тым ліку і для ПАГОНІ.

# Маісей у фарбах і на «Подыуме»

**У галерэі «У Майстра» ў мінулую пятніцу адкрылася выстава гарадзенскага мастака Рамана Маісея.**

Гэта адзін з нешматлікіх маладых гарадзенскіх жывапісцаў, якім удалося «скарыць» сваім талентам цэнтр арт-бізнесу СНД - Маскву. Там ён працаваў некалькі гадоў у рэкламе - справе, якая патрабуе адначасова прадпрымальнасці і творчых ідэяў. Калі дакладна, у Маскве адбылася і першая асабістая выстава Рамана. Аднак яна «не ў лік», бо, як адзначыў аўтар, «я быў тады адзін на адзін з работамі. А карціны без гледача не жывуць. Таму для мяне сапраўдная першая выстава - сёння».

На вернісажы, як і заўсёды на імпрэзах «У Майстра», артыстычнае жыццё віравала. Гэтаму спрыялі самі работы Рамана Маісея, якія сваёй яркай экспрэсіяй і вытанчанасцю захапілі прысутных. Вядомы гарадзенскі «вольны літаратар», паэт і эсэіст Юры Гумянюк у парыве эмоцыяў параўнаў Маісея з французскім фавістам Мацісам (фавізм - плынь французскага мадэрнісцкага жывапісу пачатку XX стагоддзя, якая характарызуецца нястрымаваным буянствам фарбаў, вольнымі прапорцыямі і перспектывай дзеля выяўлення найбольшага абстрэння пачуццяў і выразнасці карціны).



**Раман Маісей у гасцях «У майстра», а дакладней, у прыгожай гаспадыні гэтай галерэі Алены Пілічавай**

Ад гэткага прываблівага параўнання Раман Маісей не адмовіўся. Паводле яго ных словаў, ён не баіцца быць падобным у сваёй творчасці да вядомых майстроў: «Гэта класікі, у іх пераймаць не сорамна».

Выстаўленыя карціны на самой справе насычаныя энергіяй, экспрэсіяй; яны гавораць з гледачом пры дапамозе колеру. «Зялёны нацюрморт», «Блакітны нацюрморт» - самі назвы твораў акцэнтуюць увагу на характары фарбаў і паказваюць майстэрскае валоданне колерам. У партрэтах мастак здолеў авалодаць эфектам выяўлення нават тонкай ігры чалавечага твару праз буйныя каляровыя мазкі, праз асіметрыю.

Акрамя рэкламы і жывапісу Раман Маісей разам са сваёй жонкай пачынае праект - бюлетэнь моды «Подыум». У галерэі «Раскоша» можна пазнаёміцца з навінкамі «Подыума» і пагля дзець на ажыццёўленне навамодных ідэяў у невялічкай «калекцыі» адзення, створанага рукамі гарадзенскіх майстроў.

**Алена Сіневіч**

# Будуюць новы хлеў над Ніжняй царквой

**Руіны гэтай царквы літаральна адкапалі, калі ў 30-я гады XX стагоддзя вяліся земляныя работы ў межах Старога каралеўскага замка ў Гродне. Выпадкова знойдзеную царкву назвалі Ніжняй. Гэта старажытнейшы помнік храмавага дойлідства XII стагоддзя, ён складзены з тонкай плінфы і прыроднага каменя. Цяпер над ім узводзіцца павільён з дошак, бляхі і шкла.**

- Гэта спосаб захаваць руіны Ніжняй царквы, - гаворыць старшы навуковы супрацоўнік гісторыка-археалагічнага музея Рыгор Акінчык. - Гэта часовы варыянт. А вось на будаўніцтва стацыянарнага павільёна, які здольны прыняць наведвальнікаў музея, сродкаў не хапае. Няма што і казаць пра кансервацыю і рэстаўрацыю царквы...

Стары павільён знеслі: ён прагніў настолькі, што мог абрынуцца. Мясцовыя вандалы пакінулі каля сценаў старажытнай святыні вогнішчы ды прэзервbooтывы. Не шкада ім рэштак Верхняй царквы. І што мы за народ, калі сваю гісторыю, культуру і веру далёкіх продкаў заганяем у драўляны хлеў, як тое было?! А мо справядлівей казаць не пра народ, а пра яго правадыроў?

Новы драўляны хлеў - прабачце, павільён палепшанай канструкцыі, з зашклёным ліхтарам над бляшаным дахам - без сумневу, падоўжыць жыццё Ніжняй царквы. Яго ўзводзяць будаўнікі ПКП «Улисс». Але фінансаванне «аб'екта» трэба паскорыць, каб не зацягнуць будаўніцтва да восеньскіх дажджоў і зімовых маразоў. А зараз пад цэлафанам (ім прыкрытыя руіны дзіва-царквы) дзенідзе набірае сілу пустазелле. Яно не пашкадуе вапнавы раствор і плінфу адвечных сценаў, вышыня якіх месцамі дасягае 3,5 метра.

**Вад Айдараў**

# «Мы нават не маем грошай, каб купіць хлеба...»

**Прывітанне, шаноўная рэдакцыя газеты ПАГОНЯ!** З вялікай павагай да вас і вашых чытачоў пішa вам Генадзь! У першых радках свайго ліста хачу выказаць спачуванне родным і блізкім тых, хто трагічна загінуў 31 траўня ў Менску, каля станцыі метро «Няміга».

З глыбокім болем і жалобай пачуў я гэтую навіну. Колькі маладых жыццяў забраў трагічны выпадак... Я не магу выказаць словамі, гэта назаўсёды застанецца ў нашай памяці. Чаму і як гэта здарылася, я ніяк не дам рады зразумець і прыняць усю гэтую трагедыю. Гэта наш боль, наш смутак.

Ніяк вось разабрацца не магу. Лукашэнка кажа адно (што п'яных там на Нямізе не было), а міністр унутраных справаў гаворыць зусім іншае: маўляў, былі і на падпітку.

Я хутчэй паверу ў другое, таму што ў нас, калі якое свята праводзіцца, то паўсюль прадаюцца гарэлачныя вырабы. І ўсе п'юць. А ў тое, пра што распавядае А.Лукашэнка, верыцца слаба. У гэтым трагічным выпадку ёсць вінаватыя, але наша ўлада не хоча гэтага прызнаваць. Няўжо ў тых людзей, што гэтак робяць, не засталося ні кроплі сумлення, каб прызнаць, што ў гэтай трагедыі ёсць вінаватыя?

Проста не ведаю, што ж будзе далей? Значыць, хай гінуць людзі, і ніхто не будзе несці за гэта адказнасці?! Але ж гэтак нельга. Нельга ігнараваць свой народ, сваю нацыю.

Балюча, вельмі балюча за тых, хто загінуў у такой недарэчнай і неразумнай трагедыі. Колькі загінула нашай моладзі... Мне сорамна за нашых кіраўнікоў, што не хочуць прызнацца, што ў гэтай трагедыі ёсць іхняя доля віны.

Раскажу вам пра сваю бяду. Сам я таксама гібею. Я інвалід, з цяжкасцю хаджу. Надта баляць ногі і ўвесь пазваночнік. Ды яшчэ маю шмат розных хранічных захворванняў (гастрыт, піеланефрыт, бранхіт, халецыстыт, ІБС). Не жыццё, а пакута. Жыву я з матуляй, ёй ужо 75 гадоў, ды з братам, якому 36 гадоў. Брат псіхічна хворы, інвалід ІІ групы па псіхічнаму захворванню. Пенсіі ў нас мізэрныя, на троx атрымліваецца каля 10 мільёнаў. Карову і свіней не трымаем, бо не маем здароўя: ні я, ні брат, ні наша старэнькая маці. Вось у гэтым годзе далі нам соткі, пасадзілі мы бульбу, а сабе на ежу нават не пакінулі. Сёння, другога чэрвеня, маці пайшла на пошту па сваю пенсію (яна гэтым чыслом яе атрымлівае), брат - 5-га, а я - 14-га. Дык вось, кожны месяц нам не хапае гэтых пенсій, яшчэ трэба заплаціць абавязковую страхоўку, але мы яе ніяк не можам заплаціць. І вось сёння на пошце маёй маці паказалі ведамасць, дзе было напісана «пенсію не выдаваць». А яшчэ брат мой, які ездзіў у красавіку да доктара, выйшаў з аўтобуса, зайшоў за магазін (выбачайце, памачыцца), а з акна канторы гэта ўбачыў міліцыянт. Выйшаў, паклікаў майго брата (хаця і ведаў, што той псіхічна хворы) і склаў пратакол, напісаў там «мелкое хулиганство».

За страхоўку трэба аддаць 225 тысяч рублёў, да таго ж штраф 100 тысяч. І вось я, нямоглы, паехаў у Шчучын, у райсабес. І што вы думаеце мне там сказалі? Маўляў, пенсіі прыйдуць аж 11 числа! А што гэтыя 10 дзён есці? Мы нават не маем грошай, каб купіць хлеба, закончыўся цукар, сала, мука, тлушч, бульба. Што нам рабіць? Хіба саміх сябе. Вось такія ў нас справы. Спім пад дзіравымі коўдрамі, адзення ды абутку няма. Лекаў неабходных мне і матулі з братам таксама няма. Мы за нашыя мізэрныя пенсіі мала што можам сабе купіць. Як жыць далей, не ведаем. Аніякай дапамогі ад нашай улады!

Патрапілі ў твань, дакладней, нас усіх у яе папхнулі нашыя ранейшыя ды цяперашняя кіраўнікі. З гэтай багны нам зараз і не вылезці. Прабачце, будзьце ласкавы, дарагая рэдакцыя, калі ёсць у маім лісце памылкі. Я думаў, што добра ведаю беларускую мову, але гэта не так. Вельмі люблю чытаць кнігі, газеты, аднак для мяне яны цяпер надта дорага каштуюць. Вельмі вас прашу, калі будзеце друкаваць мой ліст у вашай газеце, то не падавайце там мой адрас і прозвішча. Улады могуць адпомсціць, ды і людзі будуць смяяцца. Хаця тут смяяцца няма з чаго. І яшчэ, можа ў вас ёсць старыя нумары вашай газеты, непатрэбныя вам, то, калі мажліва, перашліце, калі ласка, іх мне. Буду вельмі вам удзячны.

**З павагай,**
**Генадзь**

**P.S.:** ***Калі хто захоча мне напісаць, то, калі ласка, дасылайце чысты канверт. Нават на гэтую дробязь не маю грошай. Мой адрас знаходзіцца ў рэдакцыі ПАГОНІ. Мо хто мае магчымасць выслаць мне старыя газеты ці можа, нават, кнігі... Вельмі хацелася б вывучыць сапраўдную гісторыю нашай Беларусі, але няма па чым. Ну вось і ўсё ў мяне.***

# Змены на чыгунцы. Плаціць будзем больш і ўсё па-руску

**З першага ліпеня 1999 года ўваходзіць у сілу Закон Рэспублікі Беларусь «Аб чыгуначным транспарце».**

Новы Закон будзе вызначаць прававыя, эканамічныя і арганізацыйныя асновы дзейнасці чыгуначнага транспарта Беларусі, рэгламентаваць яго ўзаемадачыненні з рэспубліканскімі органамі дзяржаўнага кіравання, мясцовымі выканаўчымі і распарадчымі органамі, спажыўцамі работ і паслуг чыгуначнага транспарту. Закон уяўляе сабою, на наш погляд, тварэнне рынкавага сацрэалізму: у адпаведнасці з артыкулам 9 прававога акту прадпрыемствы і арганізацыі чыгуначнага транспарту агульнага карыстання ажыццяўляюць фінансава-эканамічную дзейнасць у выніку спалучэння прынцыпаў...дзяржаўнага рэгулявання эканомікі і рынкавых адносінаў.

І ўсё ж не на гэтым мы засяродзілі ўвагу, а два наступныя моманты.

1. Згодна з часткай 2 артыкула 10 Закона, тарыфы на перавозку пасажыраў, грузаў і багажу павінны пакрываць выдаткі на ўтрыманне і эксплуатацыю камунікацыяў чыгуначнага транспарту і транспартных сродкаў, а таксама выдаткі, што звязаны з забеспячэннем бяспекі руху, фармаваннем фінансавага рэзерву для забеспячэння дзейнасці Беларускай чыгункі ў надзвычайных сітуацыях, а таксама іншыя выдаткі цэнтралізаванага характару. Атрымліваецца, што пасажырскія перавозкі ўжо не будуць стратнымі і датаванымі за кошт дзяржавы на 80 працэнтаў, значыць да сталіцы і назад ўжо не даедзеш за 450 тысяч беларускіх рублёў. (гл. ПАГОНЮ N24 ад 6 красавіка 1999 года, артыкул «За глыток «Holsten» да Менску»). Але як жа тады агульны ўзровень жыцця грамадзянаў Беларусі? Ён зноў не будзе «пакрываць» выдаткі на павышэнне цэнаў на чыгуначныя білеты? Аднак для тых, хто верыць беларускаму кіраўніку дзяржавы, паведамляем: адпаведна часткі 3 артыкула 10 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб чыгуначным транспарце», тарыфы на перавозкі чыгуначным транспартам агульнага карыстання ўсталёўваюцца ва ўнутрырэспубліканскім чыгуначным паведамленні ў парадку, што вызначае...прэзідэнт Рэспублікі Беларусь.

2. Заканадаўча выкараняецца беларуская мова ў Рэспубліцы Беларусь як мова службовага справаводства і зносінаў. У адпаведнасці з артыкулам 23 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб чыгуначным транспарце» на чыгуначных станцыях, у тым ліку вакзалах, у цягніках ды іншых месцах абслугоўвання пасажыраў, адпраўшчыкаў і атрымальнікаў грузу і багажу, службовае справаводства, афармленне ўліковай, справаздачнай, камерцыйнай і тэхнічнай дакументацыяў, тэлефонная сувязь, прававая і навукова-тэхнічная інфармацыя; а таксама іншая інфармацыя і рэклама, службовыя зносіны на прадпрыемствах і ў арганізацыях чыгуначнага транспарту агульнага карыстання, звязаных з рухам цягнікоў, перавозкай пасажыраў, грузаў і багажу можа ажыццяўляцца толькі на рускай мове. Такім чынам, з першага ліпеня Беларуская чыгунка становіцца рускамоўнай.

На жаль, станоўчых эмоцыяў Закон «Аб чыгуначным транспарце» нам не прынёс. Мы чакаем сапраўдных зменаў і не толькі на Беларускай чыгунцы. Як і дзесяць гадоў таму: «Мы ждём перемен!»

**Сяргей Міронаў**

# Міражы, міражы на гарызонце...

**У артыкуле Сяргея Міронава «Аўтамабіль: ад раскошы да сродка перамяшчэння» (гл. ПАГОНЮ N36 ад 27 траўня г.г.) мы абяцалі, што ў бліжэйшых нумарах нашай газеты чытачы пазнаёмяцца са станам справаў на рынку новых аўтамабіляў. Сёння мы выконваем свае абяцанні.**

З моманту апошняга агляду коштаў на новыя аўтамабілі ў Беларусі мінула ўжо амаль паўгода (**гл. ПАГОНЮ N10 ад 9 лютага г.г.**). Вартым увагі фактам з'яўляецца тое, што з лютага бягучага года не падаражэла ніводная мадэль аўтамабіля, пададзеная на продаж у пачатку года, у параўнанні з сённяшнім днём. Скрозь кошты знізіліся. Кошт Audi - на 4-5 працэнтаў, Ford - на 7 працэнтаў, KIA - на 5-6 працэнтаў, Suzuki - на 6-7 працэнтаў, Toyota - на 12,3 (у сярэднім) працэнта, VAZ - на 2-3 працэнты, VW - на 6-7 працэнтаў. На погляд эканамістаў аналітычнага цэнтра «Рынкавая эканоміка», з ліку прычынаў зніжэння цэнаў на новыя аўтамабілі ў Беларусі можна вылучыць дзве асноўныя:

1) вялікія цяжкасці са збытам з-за зніжэння спажывецкай здольнасці грамадзянаў;

2) падзенне нямецкай маркі ў дачыненні да даляра ЗША (большасць аўтамабільных дылераў звязвала свой тавар нямецкай грашовай адзінкай).

Зараз на Беларусі можна набыць практычна любую новую марку і мадэль аўтамабіля (**гл. табліцу**): ад прэстыжных BMW і Mercedes да аўтамабіля «Ока». Пры гэтым у пакупніка ёсць выбар: купіць чатырохколавага сябра ў афіцыйнага дыстрыб'ютара з разнастайнымі гарантыямі альбо ў «неафіцыйных крыніц» без гарантыяў, але крыху танней. Паводле звестак, пададзеных фірмай «Artkes», большасць пакупнікоў выбіраюць першы шлях. Усё-ткі больш надзейна. (**Глядзі табліцу**)

Бліжэйшым часам на Беларусі следам за Расіяй можа быць уведзены збор з уладальнікаў аўтамабіляў (аб'ём рухавіка якіх больш за 2500 куб.см). У Расіі гэтая сума прыблізна складае 230 даляраў у год. Гэта закране ўладальнікаў Audi A8, BMW серыяў 7 і 8, Mercedes class S, Lexus ды інш. Аднак ці будзе весціся збор толькі з уладальнікаў новых аўтамабіляў (да трох гадоў з моманту выпуску), пакуль што невядома. У цэлым, на ўладальніках прыстойных іншамарак у хуткім часе будзе трымацца ўвесь бюджэт! Следам за «растаможкай» па 0,5 еўра за адзін кубічны сантыметр рухавіка, следам за страхоўкай грамадзянскай адказнасці (што ў два разы перавышае па кошту страхоўку ўладальніка больш таннай машыны) вырашылі ўвесці яшчэ і збор. Бо заканадаўства Беларусі і Расіі уніфікуецца!

Што ж будзе з коштамі на новыя аўтамабілі ў Беларусі? Перш за ўсё, будуць новыя мадэлі і новыя кошты. Мажлівасці грамадзянаў рэспублікі тут, відаць, не бяруцца пад увагу. Не будзе ж цана новых аўтамабіляў прырోўнена да магчымасцяў сярэднямесячнага заробку ў 23 даляры ЗША! На погляд эканамістаў аналітычнага цэнтра «Рынкавая эканоміка», на фармаванне кошту на новыя легкавыя аўтамабілі ў Беларусі можа паўплываць сітуацыя на сусветных (у тым ліку расійскім) фінансавых рынках, а таксама зборка і адпаведна продаж на тэрыторыі Расійскай Федэрацыі некаторых мадэляў аўтамабіляў. Гэта Opel Vektra і Chevrolet Blazer на сумесным прадпрыемстве «ЕлАЗ-General Motors» у Елабузе, BMW-523 і BMW-528i на Калінінградскім акцыянерным таварыстве «Автотор» (ужо ідзе зборка KIA і Land Rover Defender) і прадукцыя Renault на маскоўскім прадпрыемстве «Москвич». Канешне ж, расійская зборка вышэйзгаданых марак і мадэляў аўтамабіляў будзе таннейшай за аналагічную заходнюю прадукцыю.

Што да цэнаў на прадукцыю сумеснага беларуска-амерыканскага прадпрыемства «Форд-Юнион», дык яны наогул не вытрымліваюць ніякай канкурэнцыі з коштамі на аналагічныя маркі аўтамабіляў. За ўвесь 1999 год плануецца сабраць Ford Escort і Ford Transit (разам - 950 адзінак), да таго ж, 800 з іх - на Расію. Але праз чатыры месяцы мяркуецца «адкрыць» на базе дзяржаўнага прадпрыемства «Русский дизель» (г.Усевалажск, Ленінградская вобласць) сумесная прадпрыемства з Ford Motor Company. Што тады з прадукцыяй «Форд-Юніон»? З разліку 23 даляры ў месяц яе ж не купіш, спадары беларусы. А расіяне будуць звяртацца ў Ленінградскую вобласць...

Карацей кажучы, новы аўтамабіль для грамадзянаў Беларусі аддаляецца з кожным днём у цэнтр нейкай бязлюднай пустыні. Новыя аўтамабілі нагадваюць міражы на гарызонце.

**Максім Жмінда**

Табліца

| Марка і мадэль аўтамабіля | Кошт аўтамабіляў у далярах ЗША |
|---|---|
| Audi A4 | ад 18500 |
| Audi A6 | ад 29900 |
| Audi A8 (заказ) | ад 43000 |
| BMW-318i | 21200 |
| BMW-320iA | 25400 |
| BMW-323iA | 30000 |
| BMW-328 | 29400 |
| BMW-523i | 36600 |
| BMW-528i | 41000 |
| BMW серыі 7 | ад 57000 |
| BMW серыі 8 (заказ) | ад 80000 |
| Ford Escort | ад 7990 |
| Ford Focus | ад 11999 |
| Ford Transit | ад 15999 |
| GAZ 3110 «Volga» | 4300 |
| Jeep Grand Cherokee | ад 2900 |
| KIA Shuma | ад 7400 |
| KIA Credos II | ад 9600 |
| KIA Sportage | ад 13100 |
| Lexus | ад 48400 |
| Mazda-626 | ад 11450 |
| Mercedes class A | ад 18800 |
| Mercedes class C | ад 24500 |
| Mercedes class E | 30000 |
| Mercedes class S | ад 59000 |
| Mitsubishi Pajero | ад 20500 |
| Nissan Almera | ад 8800 |
| Nissan Premera | ад 11900 |
| Nissan Maxima | ад 18800 |
| Nissan Patrol | ад 26400 |
| Nissan Terrana | ад 17000 |
| Opel Astra | ад 9600 |
| Opel Omega | ад 16990 |
| Opel Vecrta | ад 12000 |
| Hyundai Accent | 5000 |
| Hyundai Sonata | ад 10900 |
| Hyundai Galloper | ад 13000 |
| Scoda Felicia | ад 5100 |
| Scoda Oktavia | ад 9600 |
| Scoda Oktavia Kombi | ад 10900 |
| Suzuki Baleno | ад 10240 |
| Suzuki Grand Vitara | ад 14320 |
| Suzuki Jimny | ад 11190 |
| Suzuki Samurai | ад 11300 |
| Suzuki Swift | ад 8200 |
| Toyota Avensis | ад 18000 |
| Toyota Camry | ад 22000 |
| Toyota Corolla | ад 11900 |
| Toyota Land Cruizer-95 | ад 29500 |
| Toyota Land Cruizer-100 | ад 31000 |
| VAZ-11113 «Ока» | ад 1580 |
| VAZ-21043 | 3180 |
| VAZ-2105 | 2990 |
| VAZ-2106 | 3100 |
| VAZ-21065 | 3100 |
| VAZ-2107 | 3300 |
| VAZ Baltic | 4300 |
| VAZ-21093 | 4300 |
| VAZ-21099 | 4499 |
| VAZ-2110 | 5300 |
| VAZ-21213 | 3600 |
| Volvo S-40 | ад 16900 |
| Volvo S-70 | ад 21900 |
| VW Polo | ад 7000 |
| VW Polo classic | ад 7990 |
| VW Golf | ад 9500 |
| VW New Beetle | ад 18500 |
| VW Bora | ад 12900 |
| VW Passat | ад 13500 |
| VW Passat Variant | ад 14800 |
| VW Caddy | ад 7900 |
| VW Caravelle | ад 15900 |
| VW LT | ад 17900 |

# Курсы валют

**На 16 чэрвеня Нацыянальны банк Беларусі ўстанавіў наступныя афіцыйныя курсы валют:**

даляр ЗША — 255.000 беларускіх рублёў; еўра — 264.919,50; нямецкая марка — 135.451,19; расійскі рубель — 10.520. У параўнанні з учарашнім днём афіцыйны курс долара не змяніўся.

На «чорным» рынку наяўнай валюты ў Менску раніцай 16 чэрвеня даляр куплялі па 425.000—430.000 і прадавалі па 435.000—440.000 рублёў. У параўнанні з учарашнім днём курс не змяніўся.

**На мінулым тыдні (7—13 чэрвеня) курс даляра ЗША да беларускага рубля павялічыўся толькі на адміністрацыйна рэгулюемых сегментах валютнага рынку краіны. Упершыню за апошнія два з паловай месяцы вырасла каціроўка даляра ў абменных пунктах камерцыйных банкаў — на 1,7 працэнта (з 290.000—300.000 да 295.000—305.000 рублёў пры куплі, з 300.000 да 305.000 рублёў пры продажы). На Беларускай валютна-фондавай біржы даляр ЗША падаражэў на 0,8 працэнта (з 252.000 да 254.000 рублёў), расійскі рубель — на 1,2 працэнта (з 10.350 да 10.470 рублёў), нямецкая марка і еўра — на 2,8 працэнта (адпаведна са 132.700 да 136.400 і з 259.600 да 266.900 рублёў). На «чорным» рынку наяўнай валюты ўвесь тыдзень даляр куплялі па 430.000—435.000 і прадавалі па 440.000—445.000 рублёў. Рынкавы курс даляра да безнаяўнага беларускага рубля знізіўся на 6,7 працэнта (з 510.000—530.000 да 475.000—495.000 рублёў). З пачатку месяца біржавы безнаяўны курс даляра вырас на 1,2 працэнта, банкаўскі наяўны — на 1,7 працэнта. Пазабіржавы безнаяўны курс знізіўся на 2 працэнта, «чорны» наяўны — на 1,1 працэнта. Афіцыйны курс даляра да расійскага рубля, які ўстанаўліваецца Цэнтральным банкам РФ, знізіўся за мінулы тыдзень на 0,4 працэнта (з 24,36 да 24,27 рубля), з пачатку месяца — на 0,7 працэнта.**

**Дзмітрый Уласаў**

# Тайну ўклада банк не гарантуе?

**Як стала вядома з неафіцыйных крыніц, Нацыянальны банк Беларусі зацвердзіў парадак прадастаўлення банкамі звестак аб некаторых валютных аперацыях сваіх кліентаў.**

Згодна з парадкам, банкі абавязаны патрабаваць ад сваіх кліентаў дакументы, на падставе якіх ажыццяўляецца валютная аперацыя; пералік гэтых дакументаў вызначаецца банкам самастойна. На падставе аналізу пададзеных дакументаў банкі абавязаны інфармаваць Нацыянальны банк у наступных выпадках: калі ў дагаворы не прадугледжана адказнасць замежнага партнёра за невыкананне тэрмінаў яго выканання; прадугледжаны авансавы плацёж на карысць нерэзідэнта на суму больш за 100 тысяч амерыканскіх даляраў; дагавор заключаны ад імя беларускага суб'екта гаспадарання, існуючага менш на тры месяцы; дагавор заключаны з кампаніямі, зарэгістраванымі ў афшорных зонах, да ліку якіх аднесены і шэраг амерыканскіх штатаў, швейцарскіх кантонаў, Люксембург, Ліхтэнштэйн, Латвія, Цэнтр міжнароднага бізнесу «Інгушэція», а таксама ў некаторых іншых выпадках.

За непаведамленне інфармацыі Нацыянальнаму банку камерцыйныя банкі могуць быць аштрафаваны на суму, роўную аднаму працэнту ад сумы плацяжа кліента.

**Сяргей Балыкін**

# Свята зацвярджае старшыня

**Праўленне калгаса імя Чапаева Мастоўскага раёна прыняло важны дакумент, дзе вызначаны пакаранні за нявыхад на працу.**

Кіраўніцтва гаспадаркі аднагалосна прагаласавала за стопрацэнтнае пазбаўленне ўсіх даплат ды іншых ільготаў таксама за невыкананне ўказанняў галоўных спецыялістаў, начальнікаў участкаў, загадчыкаў фермаў, брыга-дзіраў. Атрымае чалавек спагнанне і за тое, калі не пойдзе на працу ў выхадныя ды святочныя дні, калі яны абвешчаны рабочымі. А абвяшчаць святочныя і рабочыя дні мае права толькі старшыня калгаса.

Дарэчы, тым часам у гаспадарцы палявод зарабляе паўтара мільёны рублёў.

**Антон Макей, «ГС»**




# У суседзяў - павелічэнне пенсіяў, у нас...

**З першага ліпеня 1999 года ў Рэспубліцы Польшча ўводзіцца абноўленая сістэма пенсійнага забеспячэння.**

Паводле вынікаў пенсійнай рэформы, ужо ў жніўні бягучага года пенсіянеры Польшчы будуць атрымліваць у сярэднім на 74 злотых больш, чым у папярэднія месяцы 1999 года. Па краіне сярэдняя пенсія грамадзянаў Польшчы у выніку рэформы наблізіцца да ўзроўня ў 700 злотых. (На 6 чэрвеня бягучага года адзін даляр ЗША прыблізна быў роўны чатыром злотым). Для працуючых польскіх пенсіянераў поўны памер атрымліваемых пенсіяў захаваецца, калі заробак не перавысіць 2050 злотых.

Што да беларускіх пенсіянераў, то яны атрымліваюць менш за прагназуемыя польскія надбаўкі. Калі польскія пенсіянеры толькі дадаткова атрымаюць у пераліку са злотых - 8 мільёнаў 100 тысяч беларускіх рублёў, то нашы пенсіянеры здавальняюцца сярэднедзяржаўнай падачкай у 6 мільёнаў 750 тысяч рублёў у месяц. Пенсія грамадзян Беларусі складае на сённяшні момант дванаццатую частку пенсіі грамадзян Польшчы.

У той жа час Міністэрства статыстыкі і аналізу Рэспублікі Беларусь у чарговы раз канстатуе: пенсія ў чэрвені павялічыцца ў сярэднім на 800 тысяч рублёў; кіраўнік дзяржавы ўвесь час гаворыць наконт праяўлення клопату ўлады пра пенсіянераў, пра састарэлых грамадзянаў Беларусі...

З канца 1994 года рэальная сярэдняя пенсія ў Рэспубліцы Беларусь знізілася ў чатыры з паловай разы.

**Кацярына Зволін**

# Аголеная эвалюцыя

**У Сенатарскай зале Новага замка ідзе выстава «Ірацыянальны жывапіс» гарадзенскага мастака Ігара Сільвановіча.**

Манументальна-класічная музейная зала, змясціўшы мадэрновую выставу маладога мастака, зрабіла лёгкі крок убок ад традыцый. Звычайна тут выстаўляліся мэтры, яшчэ часцей - карціны тых мастакоў, што ўжо адышлі ў лепшы свет. Таму хваляванне і шматлікія словы ўдзячнасці на адрас віноўніка ўрачыстасці на вернісажы былі натуральнымі. Да таго ж, супрацоўнікі музея назвалі імпрэзу «першай асабістай выставай Ігара Сільвановіча». Што не зусім праўда: першая выстава была два гады таму ў галерэі «Тызенгаўз».

У Ігара Сільвановіча склаўся свой метад сумяшчэння жорсткай рэчаіснасці з творчым летуценнем. Сёння мастак ужо не згаджаецца быць галодным. Таму падзяляе сваю працу на прыземлены «рэалістычны жывапіс для ўпрыгожвання інтэр'ераў» і «мудрагелістых вобразаў-прывідаў у колеравых градацыях». Апошнія і складаюць выставу пад назвай «Ірацыянальны жывапіс».

Спецыялісты прылічаюць гэтыя творы Ігара Сільвановіча да абстрактнага жывапісу. Тэматыка палотнаў насычаная філасофскімі і маральнымі тэрмінамі. Яе сэнс выяўляецца праз перадачу алагічнага, нерэальнага, падуладнага толькі падсвядомаму ды эмацыйнаму ўспрыманню.

Мастак стварае вобразы без усякага кантролю з боку розуму. Своеасаблівы творчы метад складаецца з «медытацыі» перад палатном дзеля вызвалення асабістага «я» ад межаў логікі і розуму. У выніку атрымалася экспазіцыя з ухілам у арыенталістыку. І хоць Ігар не практыкуе ўсходнія вучэнні накшталт йогі ці эзатэрычнай філасофіі, назвы многіх палотнаў маюць шмат агульнага з тэрмінамі ўсходняй філасофіі. У гэтым сэнсе паказальныя «Шамбала», «Прарыў аўры», «Манада» ды іншыя. Шмат увагі надае мастак жывапісным распрацоўкам маральна-філасофскіх пытанняў у карцінах «Метастазы віны», «Страх». У паліптыху «Аголены спектр» праз сем карцін у сямі колерах вясёлкі паказана эвалюцыя падсвядомасці». Як бачым, на выставе больш пытанняў, чым адказаў на іх. Амаль ля кожнага палатна - невялікі верш-роздум на адпаведную тэму з пытаннямі накшталт «Што мы робім?», «Для чаго гэта ўсё?», «Што такое чалавек?». Сам аўтар раіць «паспрабаваць адчуць кожную работу асобна, адкінуўшы межы логікі і розуму» і лічыць, што праз мастацтва і адбываецца эвалюцыя.

Выстава «Ірацыянальны жывапіс» з'яўляецца яскравай ілюстрацыяй таго, што адчувае і чым жыве чалавек на мяжы стагоддзяў і тысячагоддзяў. Пытанні, на якія не можа адказаць ніхто, абцяжарваюць сэрца і розум. У сёмай частцы «Аголенага спектра», фіялетавай карціне, выказана мара мастака пра недасяглальную раўнавагу паміж духам і матэрыяй, якая павінна прынесці шчасце чалавецтву. А вось як дасягнуць гэтай гармоніі - пытанне, якое застаецца адкрытым.

**Алена Сіневіч**



Старасць...

# Беларусы Санкт-Пецярбурга

**У станаўленні каталіцкай царквы Санкт-Пецярбурга і Расіі выхадцы з Беларусі здаўна адыгрывалі вялікую ролю. Асаблівую значасць гэтая роля набыла ў XVIII стагоддзі, калі Расія анексавала Заходнюю Беларусь, Заходнюю Украіну і Прыбалтыку. З прычыны таго, што веравызнаннем многіх жыхароў гэтых тэрыторыяў быў каталіцызм, істотна павялічылася колькасць каталікоў у краіне. Гэта абумовіла падзел Расіі імперскай уладай на 12 каталіцкіх епархіяў.**

Сваім указам Кацярына II уключыла сталіцу Расіі Санкт-Пецярбург у склад Магілёўскай епархіі, мітрапаліт якой стаў аднасчасова на чале Каталіцкай Царквы Расійскай імперыі. У 1849 годзе ў Пецярбург з Вільні была пераведзена Духоўная Акадэмія. У тым жа годзе было прынята рашэнне након перамяшчэння з Магілёва ў сталіцу Расіі Духоўнай семінарыі. У гэтыя ўстановы традыцыйна паступала шмат выхадцаў з Беларусі. Выпускнікі пецярбургскай семінарыі выявілі сябе ў Беларусі не толькі як рэлігійныя дзеячы, але і як таленавітыя публіцысты (святар Адам Станкевіч), грамадскія дзеячы (Вінцэнт Гадлеўскі), многія атрымалі прызнанне і славу толькі пасля сваёй смерці, калі быў адкрыты доступ да раней засакрэчаных архіваў.

У Санкт-Пецярбургу, паводле дадзеных апошняга перапісу насельніцтва, жыве каля 60-ці тысяч беларусаў. У асноўным гэта людзі, якія некалі прыехалі ў горад на Няве вучыцца ці працаваць і вырашылі застацца ў ім назаўсёды. Шмат з іх, уладкаваўшыся ў горадзе, заняліся паўсядзённымі справамі, паступова забыліся на родную мову і цалкам прынялі новую культуру. Аднак жывуць у Пецярбургу і другія людзі, якія імкнуцца падтрымліваць цесную сувязь з Беларуссю, вывучаюць беларускую культуру, звяртаюцца да Бога на роднай мове.

Большасць гэтых людзей звярнуліся да Бога не так даўно - крыху болей як год таму. За гэты час, дзякуючы асабістаму энтузіязму каталікоў-беларусаў, значнай дапамозе, аказваемай айцом Стэфанам Кацінэлем і дырэктарам радыё «Марыя» айцом Яўгенам Мацео ўдалося зрабіць нямала - гэта рэгулярная служба на беларускай мове ў храме Успення Прасвятой Дзевы Марыі, якую праводзіць айцец-ігумен Стэфан Кацінэль. Гучыць Слова Божае па-беларуску, спяваюцца беларускія рэлігійныя песні і гімны. Часам чалавеку, які патрапіў на беларускую службу, здаецца, што ён перанесся з паўночнай сталіцы Расіі да сябе на радзіму, у якую-небудзь маленькую царкаўку ці касцёл на Гарадзеншчыне. Беларускі хрысціянскі дух, што пануе падчас службы, шматкратна ўзмацняецца за кошт аддаленасці ад радзімы, настальгіі па ёй і дапамагае больш наблізіцца да Госпада. Людзі рознага ўзросту і розных прафесіяў наведваюць беларускую службу. У іх ліку прафесар гісторыі Валянцін Грыцкевіч, выкладчык рэлігіі Тэрэза Шырма, спявак Лявон Габрусёнак, кампазітар Ігар Мацiеўскі ды іншыя.

На ахвяраванні вернікаў выдаецца газета «Крыніца», дзе побач з рэлігійнымі артыкуламі і навінамі з жыцця беларусаў-каталікоў Санкт-Пецярбурга публікуюцца матэрыялы пра беларускую культуру, грамадскае жыццё на Беларусі. «Крыніца», нягледзячы на свой невялікі наклад, мае сталых чытачоў не толькі ў Расіі, але і на Беларусі, у Літве, Польшчы, Германіі, Бельгіі, Аўстрыі, Канадзе, ЗША. З кожным новым нумарам паляпшаецца стыль газеты, з'яўляюцца новыя аўтары і падпісчыкі, наладжваюцца сувязі з рэлігійнымі і культурнымі выданнямі Расіі, Беларусі. Непрафесійныя журналісты, якія яшчэ тры гады таму амаль не мелі ўяўлення пра вёрстку, стыль, выдавецкія камп'ютарныя праграмы, выдаюць досыць змястоўную і цікавую газету. Электронная версія газеты, распрацаваная з дапамогай беларусаў Аўстрыі, робіць яе даступнай для ўсіх карыстальнікаў сеткі Інтэрнэт. Колькасць лістоў, атрымліваемых праз Інтэрнэт, ужо значна перавысіла колькасць тых, што дасылаюцца па звычайнай пошце.

Кожную суботу ў 17.15 у прамым эфіры на хвалях радыё «Марыя» выходзіць беларуская перадача «Магутны Божа», якую рыхтуюць каталікі-беларусы. Перадачу слухаюць у Пецярбургу і вобласці на сярэдніх (1053) і ультракароткіх (68,66) хвалях. Першапачаткова перадача доўжылася толькі 15 хвілін, але зараз яе эфірны час значна павялічыўся. Кожная перадача пачынаецца з чытання Евангелля на нядзелю і каментару да яго. Затым ідуць гістарычная, літаратурная рубрыкі, навіны рэлігійнага і культурнага жыцця з Беларусі. Пасля кожнай рубрыкі ў эфіры гучыць беларуская музыка. Час ад часу рэдакцыя перадачы запрашае гасцей у студыю. Перадача рыхтуецца на беларускай і рускай мовах для азнаямлення з жыццём Каталіцкай Царквы на Беларусі каталікоў горада на Няве і вобласці.

Каталікі-беларусы падтрымліваюць цесныя сувязі з беларускім грамадска-культурным аб'яднаннем Пецярбурга на чале з прафесарам гісторыі Валянцінам Грыцкевічам. У мінулым годзе двойчы адбываліся сумесныя паездкі ў Левашова на месца масавых рэпрэсіяў, дзе беларусамі Пецярбурга ўсталяваны і асвечаны крыж памяці бязвінна загінуўшых там суайчыннікаў. Кожны раз на мемарыяльных могілках у Левашова запальваюцца знічкі і чытаюцца малітвы на роднай мове за ўсіх загінуўшых і пацярпелых за свае рэлігійныя і нацыянальныя перакананні.

У планах каталікоў-беларусаў Санкт-Пецярбурга - стварэнне беларускіх пастановак на сцэне, арганізацыя малітваў і паломніцтваў, выданне кніг і многае іншае. Мы зацікаўлены ў супрацоўніцтве з іншымі нашымі суайчыннікамі ў Расіі, каб разам пазнаваць і пашыраць хрысціянскія каштоўнасці, захоўваючы і ўмацоўваючы веру, культуру і мову.

**Яраслаў Крывой,**
**студэнт Санкт-Пецярбургскага дзяржаўнага універсітэта**

***P.S.:Кантактны адрас: www.geocities.com/Athens/Atlantis/8005/***
***Паштовы адрас: 198005, г.Санкт-Пецярбург, вул.1-я Чырвонаармейская,11. Беларусы-каталікі.***
***Беларуская служба адбываецца кожную першую і трэцюю нядзелю месяца. Звяртайцеся на адрас: вул.1-я Чырвонаармейская,11 (станцыя метро «Тэхналагічны інстытут»).***

# Старыя могілкі ў Наваградку

**У Наваградку старых могілак захавалася тры: хрысціянскія, яўрэйскія і мусульманскія. Гэта журботныя летапісы чалавечых лёсаў. Калі іх не прачытае спецыяліст, дык яны і наогул адыдуць у нябыт.**

Разумеючы гэта, старшы навуковы супрацоўнік Навагрудскага гісторыка-краязнаўчага музея Мікалай Гайба задумаў напісаць кнігу пра гэты драматычны і таямнічы свет. Верагодна, гэта будзе кніга пра тых людзей, што калісьці жылі ў старажытным горадзе і нечым запомніліся іх нашчадкам. Ужо сабраны вялікі матэрыял, зроблены здымкі надмагільных помнікаў, што яшчэ захаваліся. Работа доўжыцца.

А могілкі працягваюць старыцца. На хрысціянскіх, прыкладам, вельмі шмат разбураных надмагільных помнікаў. Іх у розныя часы апаганьвалі жывыя. У мінулым годзе тут наводзілі парадак прадстаўнікі Лігі добраахвотнай працы моладзі, пераважна студэнты з-за мяжы. Яны працавалі ў Наваградку на працягу двух тыдняў. У іх задачу не ўваходзіла ўзнаўленне разбуранага. У заходнім свеце свае падыходы да рэканструкцыі старых могілак і пахаванняў. Справа гэта далікатная. Калі не ўпэўнены, чыя гэта магіла і чый надмагільны помнік, дык лепш працягваць пошук... Сябры Лігі казалі: каб прывесці ў парадак адну старую магілу, трэба затраціць тры тысячы даляраў. На жаль, такія грошы ў Наваградку і жывым не сняцца...

# Залатыя акуляры Адама Міцкевіча

**На беларускай, польскай, рускай, ангельскай мовах размаўляюць экскурсаводы дома-музея Адама Міцкевіча ў Наваградку. Час ад часу гэты музей наведваюць і іншаземцы.**

Некаторыя з іх дораць музею перакладзеныя на замежную мову творы славутага паэта. Такім чынам тут з'явіліся кнігі, надрукаваныя на японскай, французскай, літоўскай ды іншых мовах. А цяпер ёсць надзея ўзбагаціць калекцыю іерагліфічным пісьменствам Кітая. Яна ўзнікла пасля таго, як гэтай вясною музей наведала дэлегацыя з Паднябеснай. Зачараваныя экспазіцыяй кітайцы сказалі, што яны ўпершыню даведаліся пра Наваградак дзякуючы Адаму Міцкевічу. Але, вядома ж, наведваюць музей перш за ўсё нашы суайчыннікі.

- Цікавасць да беларускай спадчыны вялікая, - кажа дырэктар музея Галіна Кучман, - у мінулым годзе мы правялі 1 730 экспазіцый. За гэты час музей наведала каля 40 тысяч чалавек.

А цяпер паведамім пра сур'ёзнае адкрыццё. Яно здольна ўзрушыць сапраўдных знатакоў рэчаў, якія служылі ў свой час Адаму Міцкевічу. Яшчэ ў 50-я гады з Масквы ў Наваградак прывезлі пазалочаныя акуляры ў драўляным футляры. І толькі некалькі месяцаў таму, у адказ на запыт музея, на адрас Маскоўскага літаратурнага музея, была дасланая пісьмовая інфармацыя: акуляры належалі Адаму Міцкевічу. Гэтая выснова грунтуецца на запэўненнях аднаго з нашчадкаў за знакамітага рода Варанцовых. Неўзабаве акуляры паэта будуць выстаўлены ў новай экспазіцыі музея.

# Рэгіянальны жаночы цэнтр у Лідзе запрашае...

**Бацькі развяліся. З кім застануцца дзеці? Якая адказнасць бацькоў за нявыхаванасць сваіх дзяцей? Як падзяліць маёмасць пасля разводу або смерці блізкіх сваякоў? Якія ільготы дае дзяржава цяжарным жанчынам ды шматдзетным сем'ям? У якіх выпадках адміністрацыя прадпрыемства мае права звольніць жанчыну з працы?**

На гэтыя ды іншыя пытанні адкажа кваліфікаваны юрыст. Жанчыны, як найбольш неабароненая частка грамадства, часта трапляюць у такое становішча, калі трэба вырашаць не толькі матэрыяльныя, але і псіхалагічныя праблемы.

Спрэчкі на працы, у сям'і, непагадненне з дзецьмі ці сваякамі часта сур'ёзна траўмуюць псіхіку жанчыны. Каб гэтага пазбегнуць, відаць, неабходна проста выказацца, падзяліцца набалелым з суразмоўцам, які ўмее спачуваць. А дасведчаны псіхолаг не толькі выслухае, але і дасць практычную параду, як сябе паводзіць у той ці іншай сітуацыі.

З нядаўняга часу ў Лідзе адкрыты рэгіянальны жаночы цэнтр. Вырашаць жыццёвыя праблемы жанчынам бясплатна дапамогуць кваліфікаваны юрыст і дасведчаны псіхолаг.

Звяртайцеся на тэлефоны ў Лідзе 2-80-11, 5-04-03, 2-38-49.

**Лілія Сазанавец**

# Каб надрукаваць каталогі, музею патрэбны грошы

**Гарадзенскі гісторыка-археалагічны музей мае такія багацці, што гісторыкі, мастацтвазнаўцы ды іншыя навукоўцы не ў стане нават ахапіць позіркам свет рэчаў, якія экспануюцца ці знаходзяцца ў сховішчах Старога і Новага каралеўскіх замкаў. Дзе выйсце?**

- Каб уключыць гэтыя калекцыі ў навуковы абарот, - гаворыць загадчыца метадычнага аддзела музея Надзея Труханавіч, - трэба выдаць адпаведныя каталогі. Работа ў гэтым накірунку вядзецца. І ўжо гатовыя, напрыклад, здымкі і тэксты для каталога «Ручнікі Панямоння». Засталося знайсці грошы, каб надрукаваць...

З гэтай праблемай непазбежна сутыкнуцца і іншыя аналагічныя задумы музея. І сёння наўрад ці нехта скажа, калі выйдуць у свет каталогі «Халодная зброя», «Поразаўская кераміка», «Беларускія мастацкія тканіны», праца над якімі вядзецца супрацоўнікамі музея. Даўно наспела патрэба ў выданні новага даведніка па музею. А вось грошай - няма!

**Вад Айдараў**

